Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару **15 гр.**

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4. | Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: | За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош. |
|---|---|---|---|

**№ 12 (64)** | **Вільня, 28-га траўня 1935 г.** | **Год 3-ці.**

## Сучаснасьць і будучыня Беларусі.

VIII.

**Беларуская справа ў адроджанай Польшчы.**

Сувязь, якая лучыла адраджаючуюся Польшчу з землямі былога Вял. Князьства Літоўскага, гістарычныя традыцыі, а так-жа той факт, што большасьць польскіх байцоў за незалежнасьць свае Бацькаўшчыны на чале з сьв. п. Язэпам Пілсудскім паходзіла з этнографічных беларускіх земляў,—спрычыніліся да так званага Віленскага Паходу (ў красавіку 1919 г.), закончанага, як ведама, заняцьцем амаль што ўсяе Беларусі (разам з Менскам). Лічачыся з актам 25 сакавіка 1918 г., каторым беларускі народ вуснамі свайго прадстаўніцтва заявіў усяму сьвету аб жаданьні сваём жыць самастойным дзяржаўным жыцьцём, польскія перадавыя адзінкі высоўвалі ідэю фэдэрацыі Беларусі з Польшчай. Тыя-ж думкі луналі ў гэтым часе і ў галовах пэўнае часткі беларускае інтэлігенцыі, якая добра разумела, што пры створаных варунках беларускі дзяржаўны організм самастойна ўтрымацца яшчэ ня здолее. Найлепшым доказам такога фэдэрацыйнага імкненьня ў тыя часы служаць: 1. З Беларускага боку—ўтварэньне так званае беларускае вайсковае камісіі з С. Рак-Міхайлоўскім і др., падпарадкаванай галоўнаму ваеннаму Польскаму Каманданту Я. Пілсудскаму з адначаснай арганізацыяй так званай Белдруска-Літоўскай Дывізіі. 2. З польскага боку—адозва Галоўнакамандуючага Я. Пілсудскага да жыхароў былога Вялікага Князьства Літоўскага з дня 22 красавіка 1919 г., у каторай між іншым чытаем наступнае: „Край Ваш больш як сто гадоў ня знаў свабоды. Гнялі яго варожыя сілы расейскія, нямецкія й бальшавіцкія — сілы, якія, ня пытаючыся народу, накідалі яму чужацкі лад, зьвязвалі яго волю, а часта ламалі й жыцьцё.

Такі стан бязупыннай няволі, добра мне знаны асабіста, як уроджанаму на гэтай няшчаснай зямлі, павінен урэшце скончыцца і раз урэшце павінна запанаваць на гэтай, быццам забытай Богам зямлі, свабода й права вольнага, нічым нязьвязанага вырашэньня сваіх імкненьняў і патрэбаў.

Я прывёў сюды з сабою польскае войска дзеля таго, каб выгнаць панаваньне гвалту, каб скінуць уладу, якая панавала тут супроць народнай волі — войска гэтае нясе ўсім Вам волю й свабоду. Хачу Вам даць магчымасьць вырашаць свае ўнутраныя нацыянальныя і рэлігійныя справы так, як самі гэтага захочаце, бяз ніякага гвалту й уціску з боку Польшчы".

Гэты дакумант сьведчыць нам аб тым, што, займаючы этнографічныя беларускія землі польскім войскам, Маршалак Язэп Пілсудскі не ўважаў іх інтэгральнаю часткаю каранное Польшчы, але як сын гэтага краю хацеў бачыць яго **вольным з вольнымі** ды **роўным з роўнымі**.

Нажаль гэтая вялікая ідэя фэдэрацыі Беларусі з Польшай на вышэй пададзеных прынцыпах ня зьдзейсьнілася з наступных прычынаў:

1) Прарыў польскага фронту і пасьпешны адыход польскага войска ў леце 1920 аж на лінію Віслы.

2) Шовіністычна - эндэцкая большасьць у складзе польскае дэлегацыі падчас сьпісваньня Рыскага трактату.

3) Памылкі з боку польскіх і беларускіх адказных палітыкаў у ацэнцы тагачаснага палажэньня і

4) Палітыка польскіх дамаёвых урадаў у адносінах да беларускае справы.

У выніку ўсяго гэтага, як ведама, значная частка тэрыторыі Беларусі (бо аж 5/6) аддадзена была Савецкай Расеі, а рэшта Беларусаў г. зн. тыя, што ўвайшлі ў межы Польскае Рэспублікі, згодна з плянамі паноў Скульскіх і Грабскіх, павінны былі быць канчаньна сполёнізаваны.

Такія адносіны да гэтае справы, як бачым, да сяньняшняга дня яе ня вырашылі і заданьне заўтрашняга дня так для Палякаў, як і Беларусаў—прыступіць да шчырага й чэснага ўнармаваньня польска-беларускіх суадносінаў. А першым этапам рэалізацыі фэдэрацыйнае ідэі сьв. пам. Маршалка Язэпа Пілсудскага—гэтага найслаўнейшага Вялікага Сына Польшчы — павінна быць **аўтономія**.

*(Працяг будзе).*

## Ад Рэдакцыі.

Прыймаючы пад увагу тое, што на вёсцы цяпер вельмі цяжка з грашыма, Рэдакцыя нашае газэты пастанавіла абнізіць цану асобнага нумару, пачынаючы **ад 1 чэрвеня г. г., да 10 гр.** у розьнічнай продажы, зьніжаючы адначасна падпіску гадавую да **2 зл. 50 гр.**, паўгадавую—**1 зл. 35 гр.**, за тры месяцы—**75 гр.**, месячную да **30 гр.**

Пры гэтым Рэдакцыя перасьцерагае, што ўсім падпісчыкам, якія ў працягу **чэрвеня г. г.** не заплацяць належных грошай за газэту, высылка газэты будзе спынена **ад 1 ліпня 1935 году.**

## Паховіны Маршалка Я. Пілсудскага.

**Варшава.** У аўторак, 14 г. м. цела пакойнага ў адкрытай труне было з Бэльвэдэру перавезена ў варшаўскую катэдру сьв. Яна.

У пятніцу, 17 г. м. з самай раніцы сабралася перад касьцёлам сьв. Яна шматлікая таўпа. А 10 гадз. прыбылі Прэзыдэнт Рэспублікі, удава памёршага з дзяцьмі, сябры ўраду і прадстаўнікі замежных дзяржаў. Пасьля паніхіды труна з целам Маршалка была перавезена на Макатоўскае поле, дзе ў прысутнасьці ; поўмільёна асоб, адбыўся перад труной апошні парад вайсковых аддзелаў, пасьля чаго пад'ехаў спэцыяльны цягнік. Труна была пастаўлена на адкрытым вагоне-пляцформе. Па дарозе з Варшавы ў Кракаў, на ўсіх станцыях, прыбраных у жалобу, цягнік спатыкалі мясцовыя жыхары і прадстаўнікі ўсіх мясцовых арганізацыяў. У Радоме сабралася 50-тысячная таўпа.

**Кракаў.** У Кракаў цела Маршалка прыбыла а 7 гадз. раніцы. Афіцэры зьнімаюць труну з пляцформы і пераносяць яе на лясфэт. Жалобны паход адчыняюць вайсковыя аддзелы з аркестрамі. Далей ідуць: духавенства, Прэзыдэнт Рэспублікі, удава Маршалка з дачкамі, прадстаўнікі ўрадаў замежных дзяржаў, сябры польскага ўраду з прэм. Слаўкам на чале, інспэктар арміі Рыдз-Сьміглы, вышэйшыя прадстаўнікі Суду, прэзыдэнт Кракава, дыплёматычны корпус, рэктары ўнівэрсытэтаў, паслы, сэнатары, розныя арганізацыі і г. д.

Раздаецца звон ува ўсіх кракаўскіх касьцёлах, сярод якога выдзяляецца звон „Зыгмунта", які калісь абвяшчаў у Польшчы сьмерць каралей.

Пасьля кароткай прамовы Прэзыдэнта каля ўваходу ў катэдральны касьцёл, генэралы зьнімаюць з лясфэту труну і нясуць яе на плячох. Доступ у касьцёл абмежаваны, бо не хапае для ўсіх месца. Пасьля заўпакойнага багаслужэньня, труну пераносяць у падзямельле Вавэля, дзе спачываюць польскія каралі. Раптам задрыжэлі сьцены Вавэля, гэта артылерыя дае 101 выстрал, абвяшчаючы каралеўскім салютам, што цела Нацыянальнага Павадыра знаходзіцца ўжо на месцы вечнага спачынку.

## Бальшавікі дакляравалі спыніць сваю прапаганду ў Францыі.

Корэспондэнт рыскае расейскае газэты „Сегодня" піша з Парыжа, што адзіным рэзультатам маскоўскага візыта міністра заграічных справаў Лявала зьяўляецца абяцанка Сталіна спыніць камуністычную прапаганду на тэрыторыі Францыі. Ведама, што для французаў гэта шмат што азначае, калі толькі бальшавікі запраўды споўняць сваю абяцанку.

Лявалю Масква зладзіла гарачую гасьціну, а французскія корэспондэнты, якія былі з ім разам у падарожы, адразу ўнясьлі новы тон у свае газэты. Напрыклад, корэспондэнт страшэнна пашыранае парыскае газэты „Пті Парізьен" запэўняе сваіх чытачоў, што Сталіна расейцы завуць „цудоўным грузінам". „Парі Суар" піша, што Сталін зьявіўся ў тэатр пехатою і „пазнаны натаўпам, быў аб'ектам авацыяў". Савецкіх „дзяржымордаў" з ГПУ французскія журналісты вакол ня толькі Сталіна, а і ўсяе гэтае ўрачыстасьці неяк не заўважваюць. Газэты, якія яшчэ ўчора не называлі Сталіна інакшай, як „дыктатар", раптам называюць яго „мсье" (пан), а Калініна вялічаюць „прэзыдэнтам". Адзін з журналістаў перастараўся настольні, што хоча французаў пераканаць, быццам „прэзыдэнт Калінін фактычна зрабіўся расейскім царом, бо займае яго месца".

Так пачалася апрацоўка французскае грамадзкае опініі на новы — філёсавецкі—лад.

А тымчасам, трэба не забывацца, што крыху перад тым, як Сталін даў Лявалю свае абяцанкі аб спыненьні камуністычнай прапаганды ў „саюзнай" Францыі, французскія камуністы правялі шалёную акцыю пры выбарах у самаўрады пад лёзунгам „барацьбы з фашызмам і 2-х гадоваю вайсковаю службаю", заваёўваючы каля 60 новых самаўрадаў, кожны з якіх мае больш як 5.000 жыхароў.

Калі-ж узяць яшчэ пад увагу, што французская камуністычная газэта „Юманітэ", даючы дэфіцыт, выходзіць не без маскоўскага матар'яльнага падтрыманьня, сеючы атруту бальшавізму ў радох французскага пролетарыяту, дык значэньне для Францыі сталінскай абяцанкі зробіцца зусім зразумелым.

Апрача таго падаграваюцца гэтым новым савецка-французскім паразуменьнем доўгія надзеі французскага мяшчанства атрымаць калі-небудзь расейскую сплату старых даваенных даўгоў, нарабленых царскім урадам. Французы трымаюць дасюль паперы расейскіх пазычак і... чакаюць. Міністар Ляваль закрануў у гутарцы з Сталіным і гэтую справу, але тут ужо бальшавіком цяжэй даваць абя-

цанкі, бо яны хутчэй гатовы зрабіць новыя даўгі ў свае саюзьніцы, як заплаціць старыя, проста таму толькі, што плаціць ня маюць чым.

Дый куды-ж падзецца бальшавікам з усёю іх дасюлешняю тактыкай? Замест ранейшага гоману аб сусьветнай рэвалюцыі прыходзіцца ісьці на паразуменьне з тымі заходня-эўропэйскімі дзяржавамі, у якіх яны лёзунг гэтае рэвалюцыі стараліся расьсяваць поўнаю жменяю. А для ўласных сваіх, да поўнай галіты даведзеных, масаў іграць у Маскве побач з „інтэрнацыяналам“ францускую „марсэльезу“, або нават брытанскі гымн у чэсьць караля. Усё гэта бязумоўна мусіць навадзіць савецкага прыгоннага грамадзяніна на думку, што абдурыўшая яго на шмат такі гадоў бальшавіцкая ўлада трашчыць і ў загранічнай сваёй палітыцы крута адходзіць назад. Крута ёй прыходзіцца і ўнутры свае краіны, дзе нявырашаныя соцыяльныя проблемы ды нацыянальныя рухі сярод прыгнечаных Масквою народаў не даюць магчымасьці бясьпечна панаваць. Бальшавікі прывыклі сыпаць абяцанкамі ў свае паняволеныя масы, каб толькі іх на той ці іншы час абдурыць. З французамі напэўна гэта ня ўдасца, бо абяцанкі трэ' будзе датрымаць, што выкліча варожыя ўнутраныя настроі да ўсяго бальшавіцкага рэжыму, або, пайшоўшы на ашуканства заграніцы, застацца паранейшаму ў строгай ізоляцыі ад Эўропы.

Недалёкая будучыня пакажа, чаго варты сталінскія абяцанкі французам.

## Нячуваны зьдзек над беларускай народнай песьняй.

Багацьце беларускай народнай творчасьці выклікае найвялікшае зацікаўленьне нават з боку этнографаў не-славянскіх народаў.

У апошнія-ж часы ўвага зьвернена пераважна на беларускую народную песьню.

Тлумачыцца гэта тым, што, у параўнаньні з іншымі галінамі этнографіі, беларуская песьня яшчэ мала дасьледавана з боку музычнага і нават недастатачна поўна праведзена фольклёрызацыя гэтага матэр'ялу. Тэксты песень, зьмешчаных ў розных даваенных этнографічных зборніках, не зьяўляюцца поўнацэннымі для вывучэньня музычнай стыхіі беларускага народу. Там, дзе няма мэлёдыі, там фактычна няма песьні ў поўным значэньні гэтага слова.

Нацыянальнае пачуцьцё народа ў найгоршыя часы захавала песьню, як аружжа проці дэнацыяналізацыі.

Нарастаене ў народзе інтэлігентны слой, які зварочвае ўвагу на свой нацыянальны геві.

Адсюль ужо пачынаецца распрацоўка і культ роднай песьні. Песьня ў мастацкай аправе, астаючысь нацыянальнай па свайму духу, зьяўляецца ўжо вартасным укладам у агульна-людзкую культуру.

Многа прыгожых камплімэнтаў чуе беларуская песьня. Адны сапраўды з шчырым захопленьнем плацяць належную дань яе хараству,—другія, але, здаецца, цяпер большасьць такіх, у сваім захопленьні маюць укрытыя мэты, або практычна-матэр'яльнага характару, або, яшчэ горш,—проста палітычныя.

Перад намі „Kupała – Noc świętojańska“, польскі зборнічак беларускіх мэлёдый.

Здавалася-б, на першы пагляд, няма нічога дзіўнага ў тым, што нашымі беларускімі абрадамі і песьнямі цікавяцца бліжэйшыя суседзі. Але прыгледзіўшысь уважна да гэтага зборнічка, выданага коштам Віленскае Школьнае Кураторыі, кідаецца ў вочы проста панічны страх у аўтарак перад самым назовам *беларускі*.

Так, напрыклад, на загалоўным лісьце падана, што гэта „uroczystość ludowa z czasów dawnych w ziemi Nowogródzko-Wileńskiej obchodzona“, але не гаворыцца, што гэтая *ўрачыстасьць* уся саткана *з беларускіх* народных узораў.

А можа сапраўды гэтая ўрачыстасьць не-беларуская, а проста толькі сьвяткуецца на беларускіх землях Віленшчыны і Наваградчыны?

А можа жыдоўская яна, ці татарская?

Самы абрад купальскі пачынаецца ў сівой старадаўнасьці паганскіх часоў, гэта слушна, але зьмест яго ўвесь чыста, ад пачатку да канца, *наш, беларускі*,— так блізкі, так знаёмы, здаецца ўчора яшчэ сабраны нашымі этнографамі.

Аднак-жа аўтаркі гэтага зборніка п. Dobaczewska і п. Gawrońska ўпарта кожную песьню называюць: „melodja ludowa z powiatu...“, але ці гэтая мэлёдыя мае быць беларуская, ці якая іншая няма ведама. Найхутчэй, што польская-бо так хочацца паважаным аўтаркам, якія прыбралі нашы мэлёдыі польскімі тэкстамі і саромяцца нават назваць іх *ўласным беларускім імем*.

Пойдуць песьні ў сьвет і можна будзе пахваліцца лішні раз, як багата творчасьць „naszego ludu, który myśli i śpiewa po polsku“. Нам здаецца, што гэта была галоўная мэта. Апрача таго аўтаркі за чужую працу напэўна атрымалі належны гонарар. Зроблена дзьве добрыя справы: споўнена „культурная“ місія і павесялела ў кішэнях.

Мы аднак маем зусім іншы пагляд на такую справу.

Кожны сумленны, культурны працаўнік, укладаючы зборнік, абавязаны падаваць назовы аўтараў побач з іхнімі творамі, або адзначаць крыніцы, з якіх карыстаўся. Так вымагае няпісаны маральны кодэкс цывілізаваных народаў. Аўтаркам купальскай „Nocy świętojańskiej“, як ні дзіўна, але гэтае пачуцьцё маральнай адказнасьці неяк ня прыстала.

Выбіраючы мэлёдыі і тэксты, яны не парупіліся адзначыць скуль запазычаны гэтыя мэлёдыі. Між тым чэрпалі яны матэр'ялы з наступных крыніц:

1) Восем песень-мэлёдый (4, 6, 8, 9, 10, 11, 15, 18) са зборніка Г. Шырмы *„Беларускія* народныя песьні“;

2) Пяць песень-мэлёдый (1, 7, 12, 13, 16) са зборніка Е. Раманава *„Бѣлорусскія* народныя мелодіи“;

3) Дзьве песьні-мэлёдыі (5, 14) са зборніка Л. Рагоўскага *„Беларускі* песеньнік“;

4) Адна са зборніка *беларускіх* песень С. Казуры, тлумачаных папольску, і

5) Дзьве *беларускія* песьні, не пададзена таксама кім запісаны, адна з В.-Троцкага павету, другая —з Ваўкавыскага. Пры чым песьня з Ваўкавышчыны „Ой чыя-ж то пшаніца“ выклікае вялікі сумліў, што да правільнасьці запісу.

Гэта ўсё, што датычыць крыніц, на якіх апіраліся паважаныя аўтаркі.

Крыніцы гэтыя сапраўды этнографічныя, нават мясцовыя, тут аўтаркі з праўдай не разьмінаюцца, але, як відаць, толькі „забыліся“ дадаць, што крыніцы *беларускія, народныя*.

Праўда, пры некаторых песьнях стаяць назовы зьбіральнікаў—Рагоўскага, Грынкевіча (правільна—Грыневіча), аб іншых ані разу нідзе ня ўспомнена. Можа таму, што Рагоўскі з паходжаньня паляк, а замест Грыневіча проста зрабілі няведамага паляка Грынкевіча, каб лягчэй было відаць мытным спосабам прысабечыць чужыя песьні.

Мімаволі думкі сягаюць на пачатак сталецьця, калі палякі разам з беларусамі нясьлі крыж цяжкае нацыянальнае няволі. Тады расейцы таксама карысталіся духовымі скарбамі іншых народаў і ў школе і паза школай, але нідзе і ніколі ня было выданьня падобнага да „Nocy świętojańskiej“.

Восьмем для прыкладу агульна знаны ў расейцаў зборнік „140 пѣсенъ и хоровъ“, А. Лозового. Гэты сьпеўнік вытрымаў некалькі выданьняў. Уложаны яшчэ да першае расейскае рэвалюцыі на Каўказе, выданы Юргенсонам у Маскве, зьмяшчае ён у сабе ў перакладзе, побач з расейскімі, песьні: польскія, чэскія, баўгарскія, сэрбскія, харвацкія, славенскія, а ў арыгінале: ўкраінскія і беларускія. Пры кожнай не-расейскай песьні паказана яе народная прыналежнасьць. Можна было-бы знайсьці шмат падобных прыкладаў, якія будуць гаварыць не на карысьць аўтарак „Kupała“.

Гэтак выглядае бок вонкавы, фармальны.

Ня лепш справа і са зьместам самога абраду па сутнасьці.

Папершае, на 18 песень-мэлёдый толькі адна купальская, а рэшта: бяседныя, жніўныя, адна траецкая, вясельная і аж два разы паўтараецца з рознымі тэкстамі скочная мэлёдыя са зборніка Шырмы: „Замуж пайсьці трэба знаць“. Неяк дзіўна выглядае, што да паважнай старадаўнай песьні: „На Купала, на Яна сам Бог агню наклаў і ўсіх сьвятых пазбіраў“ падагнана неадпаведная мэлёдыя „zamązpójścia“.

Падругое, аўтаркі відаць зусім не разумеюць, што купальскае сьвята — гэта гымн сонцу, гымн каханьню, моладасьці, гэта радасьць паўнаты шчасьця, калі прырода сагрэтая сонцам, узбуджае маладое віно кіпець парывамі жыцьцёвай сілы. А ў зборніку „Kupała“, дзед Апанас прапануе пры помачы *гарэлкі* ўліць „да ног ахвоты“, каб лепей было скакаць праз вагонь (13). Зноў-жа Агатка, узлаваўшысь на Янку, кажа: „Не хачу *гарэлкі*, збрыдла поўная міска“... (15). А дзяўчына, калі хоча прывабіць хлапца, просіць „мілага лебедзя“ не ўцякаць: „Будзе што есьці і *піва* будзе“ (19).

Вось якая аснова сілы і радасьці!

Ствараецца ўражаньне, што на купальскае сьвята галоўную сілу і гумар дае *гарэлка*. Дзед Апанас, якога так ідэалізуюць аў-

---

**Бажэнаў.**

# Шустрая бабулька.

### Камэдыя ў І акце.

Пераклад з расейскага *В. Г.*

(Гл. № 10 „Роднага Краю“).

(п я е)

Бабулька, галубачка,<br>Мілая мая,<br>Пашкадуй-жа родная<br>Ты сваё дзіця.<br>Хіба век з лялкамі<br>Буду ўсё гуляць<br>І падзіцячы бунямі<br>Касу завіваць.

Проста не глядзела-бы<br>Я на белы сьвет:<br>Хто-ж так убіраецца<br>У шаснаццаць лет?<br>Ці няўжо-ж вечна я<br>Буду з вамі жыць?<br>Сукенку падвянечную<br>Час даўно ўжо шыць!

Ключк. Досыць, досыць гаварыць такія няпрыстойныя рэчы. Прачытай ты лепш што небудзь з літэратуры. (звоніць).

Глаша. Надаелі вы мне, бабулька, з вашай літэратурай.

#### ЗЬЯВА II.

Тыя самыя і Слуга

Ключк. Ці вучыцель гісторыі сёньня ня прыходзіў?

Слуга. Не, ня быў.

Ключк. Як прыйдзе — ня прыймаць.

Слуга. Слухаю.

Глаша. Бабулька, што вы кажаце?

Ключк. Ня ваша справа. Вучыцеля літэратуры таксама ня прыймаць.

Слуга. Слухаю. (выходзіць).

Глаша. Што вы робіце, бабулька, гэта-ж ня прыгожа. (плача).

Ключк. Вучы на заўтра вершы. Бяры ад мяне прыклад: трымай сябе разважна... Фу, як сорамна! Плачуць толькі дзеці, а ты ўжо ня дзіця.

Глаша. Дзеля таго я і хачу замуж.

Ключк. Пачакай, пачакай прыдзе і твая пара. Яшчэ не ўцякла. Ты бяры прыклад ад мяне. (Выходзіць налева ад публікі).

#### ЗЬЯВА III.

Глаша, а потым Глоў.

Глаша. Што-ж гэта такое. Ізноў вучы гэтыя прыкрыя вершы. З бабулькай ня можна аб паважным і гутарыць, зараз пачне лаяць. Паскудныя вершы. Я ўжо дваццаты раз пачынаю іх вучыць. (Ходзячы).

„І вясну так і ўсё лета<br>Надта добра ўсім гадала,<br>Дык ці верыце, кабета<br>Варажбіткай слаўнай стала“.

Глоў. (уваходзячы). Што вы кажаце? Бабулька з ложка ўпала. Ня можа быць! Як-жа гэта? Якая неасьцярожнасьць! Добра, што я ў самы час трапіў. Пайду да яе, пагляжу хутчэй. (выходзіць).

Глаша. Ха, ха, ха. Пачакайце, пачакайце, вы мяне не зразумелі... Ну, будзе там гісторыя. Бабулька падумае, што я сумысна сказала яму гэтае глупства. Ах, Божа мой, гэта проста мука! Жыць з глухімі людзьмі і калекамі, і да таго яшчэ глядзяць на цябе, як на дзіця. Усе клічуць маленькай паненкай, не даюць кроку ступіць бяз нянькі, на абед змушаюць адзець хвартушка, каб не закапаць сукенку, мне ўжо 16 гадоў, а я гуляю толькі з лялькамі... А лялькі цяпер зусім не ў галаве. У рамане, каторы даў мне чытаць Аляксандр Пятровіч, адна маладая паненка ўцякла ад сваіх з нарачоным... Ці не зрабіць і мне так! Як. мне здаецца, гэта цікава. Папрашу Аляксандра Пятровіча, каб ён забраў мяне: ён, я ведаю, згодзіцца, ён такі мілы... Я яго страшэнна кахаю; як яго не кахаць... Учора ён мне падараваў свае вершы; а хіба такія рэчы пішуцца толькі дарослым паненкам. Ён мне бязустанку кажа, што мне ўжо пара ўлажыць модную сукенку, а то як гэта выглядае? Нават брыдка на сябе глянуць. Ах, вось і ён! Як я рада.

#### ЗЬЯВА IV.

Глаша і Аляксандр Пятровіч.

Алякс. Пятровіч. Ах, вы тутака, Глашанька! Ці здаровыя вы? Ну, а дзе ваша бабулька?

Глаша. Ня гутарце са мною пра бабульку... Я на яе вельмі злая.

Алякс. Пятровіч. А што? Вы мусіць гутарылі з ёю пра сватаньне?

Глаша. Гаварыла.

Алякс. Пятровіч. Ну, як жа яна?

Глаша. Ды вылаяла мяне і задала на заўтра вучыць вершы.

Алякс. Пятровіч. Што?!...

таркі, сапраўды, як нейкі шынкар-самагоншчык, толькі і мае клопату, што частаваць *гарэлкай*: „Дайце грайкам *гарэлкі*“ (24). Дзяўчаты наліваюць шклянкі, частуюць (25).

Музыканты гэта не паўнапраўныя ўдзельнікі вясковых сьвятаў, а толькі найміты, папрашайкі, якім у шапку кідаюць „дробнэ даткі“.

Якая паншчынна—засьцянковая псыхіка!

Дзе-ж тут тое старадаўнае купальскае сьвята?!

Гэта-ж проста сучасная з 20 сталецьця мяшчанская „ўрачыстасьць“ з нейкага „Антокаля“ з півам і гарэлкаю.

Трэба зазначыць, што героіні „Купальскай ночы“ несамотныя.

Яны маюць ня толькі маральнае падтрыманьне з боку віленскай літараткі п. Г. Рэмэр, якая таксама абвесьціла агульна беларускую Лявоніху“ танцам толькі Віленшчыны (чытай польскім—Kur. Wilen. 7. IV. 1935). „Лявоніха“-ж такі самы танец Случчыны, Меншчыны, Магілеўшчыны, Гомельшчыны, Палесься, Горадзеншчыны, Беласточчыны, Наваградчыны, як і Віленшчыны.

Усё гэта сьведчыць, што каля нашай душы народнай пахадзілі грубыя, хоць і кабечыя рукі.

Усё гэта сьведчыць, што тут дзеяла нядобрая воля з мэтаю, каб прысвоіць беларускія народныя вартасьці.

Але дарэмная праца!

Мінулі часы, якія меў паэт на думцы, калі пісаў аб нашым народзе:

„А як я ўдарыў па струне,  
Замятушыліся, як пчолы,  
І на гары і ў нізіне  
Мне падавалі голас кволы.  
За мною ўсьцяж, і тут і там,  
Іх вусны бледныя шапталі:  
Аддайце песьню нашу нам!  
Нашто схавалі—расхапалі?“

Мы, беларусы, ужо ня будзем прасіць: „аддайце песьню нашу нам“, а проста на ўвесь культурны сьвет паднімем голас пратэсту проці такога безцэрамоннага „запазычаньня“ нашых народных скарбаў.

Мінулі часы, аб якіх прарочыў паэт:

„Ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны,  
Раз хочуць сонца, славы, песьні;  
Забьюць ім зычныя званы  
Прабудным звонам на прадвесьні“.

Мы бачым сонца, мы знаем славу свайго генія, мы маем свае песьні—і мы жывём!

Даўно ўжо адзванілі нам прабудныя званы на прадвесьні.

Хто ж цяпер зможа зрабіць так, каб народ забыўся аб сваёй песьні, каб ізноў заціх у *зімовым сьне*?

Польская культура па справядлівасьці можа гардзіцца сваім хрысьціянскім ідэалізмам. Але чым далей на ўсход — бліжэй да нас, —тым больш гэты ідэалізм гіне ў цёмных нетрах такіх „Купальскіх ночаў сьвентояньскіх“.

Хацелася-б, каб сумленьне польскае культуры і навукі не прайшло моўчкі каля такіх, па сутнасьці сваёй, ганебных зьявішчаў, як „Kupała—Noc świętojańska“.

# Гаспадарчы аддзел.

## Дагляд за бульбай ў першыя часы пасьля пасадкі.

Праз некаторы час пасьля пасадкі бульбы загоны трэба пабаранаваць. Чакаць, „пакуль поле добра зазелянее“, няма чаго, бо баранаваньнем найлепей нішчыцца ліхазельле, якое толькі што выбіваецца на паверхню. Калі на полі зьявіцца скарынка, трэба таксама зараз-жа баранаваць (можна для гэтага ужыць зубатага валка), бо пабаранованае поле ня толькі пазбаўлена ліхазельля, але і лепей трымае ў сабе вільгаць. Адно мусім зазначыць, што баранаваць бульбу, пакуль яна яшчэ ня ўзыйшла, трэба як найлягчэйшымі баранамі; пасьля ўсходу-жа—можна пусьціць барану сярэдняй вагі.

У апошнія гады вядуцца спробы прыкачваньня бульбы. Як паказваюць досьледы праф. Станішкіса, прыкачваньне бульбы ў першай палове чэрвеня, пакуль яна яшчэ не зацьвіла, павялічвае ўраджай на 5-8 процантаў. Пазьнейшае прыкачваньне ня толькі ня прыносіць карысьці, а хутчэй нават шкоду. Тыя-ж самыя досьледы паказалі, што прыкачваньне бульбы ў дажджлівыя гады таксама некарысна.

Пазьней, калі бульба падымецца ад зямлі на некалькі цэнтымэтраў, трэба яе пару раз абсыпаць матыкай ці абганяць спэцыяльнай сошкай.

## Як змагацца з землянымі блохамі.

Маладым расьлінам, асабліва крыжацьветным (капуста), матыльковым, канаплі і лёну прыносяць шмат шкоды т. зв. земляныя блохі. Барацьбу з гэтага роду шкоднікамі можна вясьці апрысікваньнем расьлінаў парыскай зеленьню. Прэпарат гэты робіцца наступна: бярэцца патрэбная колькасьць вады і на кожны яе літр даецца 1 гр. парыскай зелені і апрача таго 400 грамаў вапны. Парыская зелень (злучэньне арсэну) гэта вострая атрута і дзеля гэтага трэба з ёй абходзіцца вельмі асьцярожна.

Ёсьць яшчэ і іншыя сродкі проціў земляных блох, але яны не такія радыкальныя, як парыская зелень. Да такіх сродкаў належаць: тытунь, вапна і попел. Гэтыя апошнія павінны прадстаўляць сабою дробны парашок, якім і пасыпаюцца нападзеныя блохамі расьліны.

У Бэльгіі вылоўліваюць земляныя блохі спэцыяльнымі блохалоўкамі. Блохалоўка складаецца з крылаў, якія моцна прымацованы да воські, а сама воська моцна злучана з коламі. Крыла блохалоўкі, перад тым як выяжджаць на поле, трэба памазаць якою-колечы ліпкаю мазьbig, прыкл. смалою жывіцаю, дзёгцям і т. п.

Калі такой блохалоўкай праехаць па пасеве, то спуджаныя крыламі, якія разам круляцца з коламі, блохі скачуць і прыліпаюць да іх.

## Як нішчыць смаўжоў (слімакоў).

Смаўжы ў большай колькасьці прыносяць вялікія шкоды гаспадаром. Часам бывае, што смаўжы на чыста нішчаць ураджаі.

Найлепшым сродкам для барацьбы з такім шкоднікам гэта сьвежа згашанае вапна, якое трэба рассыпаць па пасеву, якому шкодзяць смаўжы. Рассыпаць вапна найлепей раніцою і ў сухую пагоду. Яшчэ лепшы вынік можна атрымаць, калі зьмяшаць вапна пораўна з медным купарвасам. Нішчыць таксама смаўжоў супэрфасфат і каініт.

## Гадаваньне козаў мае будучыню.

У Паўночнай Амэрыцы і ў некаторых эўрапэйскіх краінах існуе закон, паводле якога кароўе малако, прадзначанае для прадажы, павінна быць пастэрызавана. Пастэрызацыя палягае ў тым, што малако не гатуецца, а саграваецца на столькі, каб у ім маглі быць забіты знаходзячыяся хваробныя заразкі. Прымусу пастэрызацыі не падлягае казінае малако. Матывуецца гэта тым, што козы вельмі адпорныя на заразьлівыя хваробы, а асабліва на пэрловую (сухоты). Таму там, дзе ўведзены прымус пастэрызацыі, а гэта трэба думаць з часам будзе і ў нас, сьвежае казінае малако мае вялікі попыт.

З свайго боку мусім зазначыць, што казінае малако ні ў чым ня ўступае кароўяму, нават куды лепшае. Казінае малако мае ў сабе болей тукаў і мінэральных соляў ад кароўяга. Апрача таго, козы выгаднейшыя і з гаспадарчага пункту гледжаньня. Каза, звычайна, зьядае корму ў 6-8 разоў меней чымсь карова, а малака дае ўсяго ў 2-3 разы меней. Як каровы, так і козы, бязумоўна, карысныя ў гаспадарцы толькі тады, калі даюць шмат малака. Найбольш малака даюць козы санэнскія.

Людзі чамусьці дайшлі да такога перакананьня, што казінае малако мае няпрыемны запах. Усё гэта можа мець месца толькі тады, калі козы дрэнна дагледжаны?

Козаў трэба трымаць чыста, тады і малако будзе добрае.

## На збіраным малацэ можна расчыняць хлеб.

Некаторыя практычныя гаспадары радзяць расчыняць хлеб на збіраным малацэ. На 10 кілясраmaў мукі даецца 5 літраў малака. Выпячаны такім спосабам хлеб вельмі смачны і ня хутка чарствее. Варта спрабаваць!

## Як павялічыць апэтыт у сьвіней.

У Нямеччыне прапануюць для павялічаньня апэтыту ў сьвіней ужываць салёнага аўса. На кожную штуку радзіцца даваць каля 2 прыгоршчаў салёнага аўса ў дзень. Само-ж саленьне аўса робіцца наступным спосабам: укладаецца авёс у пасуду пластамі і пасыпаецца сольлю, пасьля чаго авёс утоптываецца рукою і скрапляецца невялікаю колькасьцю вады. Так ўложаны авёс павінен прастаяць некалькі дзён.

## Адстаўка Масарыка.

У венскіх газэтах паявіліся тэлеграмы, што чэхаславацкі Прэзыдэнт Масарык хоча падацца ў адстаўку, а яго месца мае заняць сучасны міністар замежных справаў — Бэнэш.

---

Глаша. Так, дала вучыць на заўтра вершы. Ведаеце што, Аляксандр Пятровіч... Вы мяне кахаеце?

Алякс. Пятр. Ох! больш за ўсё на савеце.

Глаша. І адважыцеся для мяне на ўсё?

Алякс. Пятр. На ўсё, на ўсё.

Глаша. Дык слухайце-ж; у той кніжцы, якую вы мне давалі чытаць, маладая дзяўчына ўцякла ўначы са сваім нарачоным... вы кіба памятаеце?

Ал. Пятр. Памятаю.

Глаша. Зьлітуйцеся, украдзеце і вы мяне: гэта будзе цікава. Толькі калі ласка, ноччу і абавязкава праз вакно.

Алякс. Пятр. Чаму праз вакно. Мы можам уцячы і праз дзьверы.

Глаша. Не, не, праз вакно... як у кніжцы; гэта будзе вельмі цікава.. і на вяровачнай драбіне.

Алякс. Пятр. Калі зусім проста можна выйсьці і праз дзьверы.

Глаша. Не, праз дзверы я ніколі не згаджуся, а праз вакно з прыемнасьцю; праз дзверы я магу і цяпер выйсьці, а праз вакно — у дзень не дазволяць.

Алякс. Пятр. Ці ня лепш было-б спрабаваць намовіць бабульку.

Глаша. Не, ужо з ёю ня дойдзеш да ладу, яна такая ўпорная. Я ўжо і інакш прабавала з ёю і таксама — нічога не бярэ.

Алякс. Пятр. А, каб спрабавалі вы абамлець.

Глаша. Як абамлець? Я гэтага не разумею...

Алякс. Пятр. Няўжо-ж вы ня мелі? Ці вам ніколі ня было дрэнна?

Глаша. Не, ніколі, мне заўсёды так добра... Як гэта?

Алякс. Пятр. Вось як: упадзеце ў крэсла, зачынеце вочы, апусьцеце рукі; бабка пачне на вас прыскаць вадою, а вы ня рухайцеся.

Глаша. Разумею, разумею, вось гэтак...

Алякс. Пятр. Добра, добра. Толькі больш назад, а рукі сюды...

Глаша. Ах, як добра быць самяеўшы. І яна спалохаецца і згодзіцца на нашу просьбу.

Алякс. Пятр. О, абавязкава!

Глаша. Вельмі добра. Цяпер я пайду і зраблю перад ёю гэтую штуку. Пачакайце мяне тут, ня выходзьце. (Выходзіць).

ЗЬЯВА V.

Аляксандр Пятровіч адзін.

Алякс. Пятр. Ах, якая яна мілая. Але-ж гэтая бабка і ўпорная здаецца, яшчэ сама хоча замуж выйсьці; не дарма яна ружуецца ды носіць фальшывыя завіткі. Мой бацька не стары доктар; колькі разоў я прасіў яго, каб ён намовіў яе згадзіцца на наша вясельле... Ён што дня абяцае. Пойдзе да яе, яна з ім загаворыцца, а ён і забудзецца. Сёньня ён ужо даў мне слова абавязкава наладзіць маё шчасьце... А вось і ён...

ЗЬЯВА VI.

Аляксандр Пятровіч і Глоў.

Алякс. Петр. Ну, што чуваць татка?

Глоў. Нічога, яна, дзякаваць Богу здаровая.

Алякс. Пятр. Хто здаровая?

Глоў. Аўдоцьця Цярэньцьеўна.

Алякс. Пятр. Бог з ёю. Скажэце мне, ці яна згаджаецца...

Глоў. Шпанскую мушку паставіць? Не, не згаджаецца, а абавязкава трэба... вось на гэтае месца, паказвае на шыю, дзеля таго, што ў яе да галавы прысла кроў...

Алякс. Пятр. Якое мне дзела, няхай яе ўсю залье. Я пытаюся, што яна гаварыла пра мяне.

Глоў. Пра цябе? Нічога. Што-ж яна мае гаварыць? Яна цябе заўсёды хваліць: „Ваш Саша, кажа, добры хлопчык“.

Алякс. Пятр. Зноў. Што-ж гэта такое? А яшчэ далі слова. Мусіць вам шчасьце вашага сына нічога нявартa. Колькі я вас прашу, нават і слухаць ня хочаце.

Глоў. Як ня чую? усё чую, толькі галасьней гавары. Я вось зараз-жа ёй скажу... Яна йдзе сюды... Хочаш пачну пры табе...

Алякс. Пятр. Не, я выйду. Зьлітуйцеся, зрабеце ўсё сяньня.

Глоў. Зараз, зараз, — будзь спакойны, толькі не сярдуй, я ўсё зраблю.

(Аляксандр Пятровіч выходзіць).

ЗЬЯВА VII.

Ключ. (уваходзячы) Вы яшчэ тутака Пётр Авер'янавіч. Ці не пакінулі вы тут нешта.

(Працяг будзе).

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

— *Галаслоўе.* У № 24 хадэцкае „Бел. Крыніцы“ знаходзім пісьмо ў рэдакцыю Ул. Казлоўскага і М. Кліма, у якім гэтыя панкі галаслоўна цьвердзяць, быццам наш корэспондэнт грам. Х. *недакладна* і нават *бязграматна* апісаў рэфэрат Л. Мэнке на адным з пятнічнікаў; пісьмо тлумачыць, што пятнічнікі „носяць чыста прыватны характар“ — вось так сабе зыйшліся людзі, ад няма чаго рабіць, пагаварылі дый разышліся. Мо' гэта і так, але-ж ад грам. Х. даведваемся, што ён атрымаў выразную згоду ад гаспадара кватэры, у якой адбыўся дадзены пятнічнік, на апублікаваньне, ў выпадку патрэбы, кароткага зьместу чутага рэфэрату; даведваемся таксама, што грам. Казлоўскі, прачытаўшы артыкул „Л. Мэнке на пятнічніку“, асабіста сьцьвярдзіў, у прысутнасьці грам. Х., што ў артыкуле гэтым *няма няпраўды*. Дык скуль бяруць цяпер нейкія *недакладнасьці* паны Казлоўскі, Клім і тыя, з кім... „яны паразумеліся?“

Нам здаецца, што грам. Мэнке—чалавек дарослы і асьвечаны — не патрабуе ўжо апекі аўтараў пісьма ў „Б. Крыніцу“ і заўсёды сам мае поўную магчымасьць праставаць недакладнасьці аб сваім рэфэраце (калі-б гэткія нават і здарыліся) там, дзе яны зьявіліся. Праўдзе заўсёды ахвотна служым.

Што датычыць *граматнасьці*, дык розныя „*яскрава-рэчаіснасьці*“ аўтараў пісьма найлепш за сабе гавораць.

У кожным выпадку нікога з сваіх супрацоўнікаў наша рэдакцыя ня зьбіраецца пасылаць на муштру ў „Новы Шлях“ пана Казлоўскага.

— У нядзелю, 26 г. м. на 11 гадзіну Урад бел. коопэратывы «Спулдзельца» вызначыў агульны сход сяброў у памешканьні віленкага адзелу «Сполэм» пры зав. с Росса № 3. На парадку дня былі пастаўлены вельмі важныя справы і таму зышліся амаль усе сябры коопэратывы. Па няведамым прычынам не зьявіўся старшыня Ураду гр В. Грышкевіч і некаторыя сябры Нагляднае Рады. Сабраўшыяся чакалі поў гадзіны на вуліцы, бо дзьверы «Сполэма» былі зачынены і ня можна было ўвайсьці ў памешканьне. Ня было выхаду і сход мусіў адбыцца пры «зачыненых» дзьвярох.

Думаю, што на так скандалічныя адносіны старшыні Ураду і «Сполэма» да сяброў коопэратывы, апошнія належна зарэагуюць.

## Выхаваньне ўАўстрыі

Як паведамляюць польскія газэты, у Аўстрыі з пачаткам новага акадэміцкага году ўводзіцца закон аб выхаваўчых заданьнях на вышэйшых школах. Паводле гэтага закону ў працягу першых 2 гад. студыяў прызначаны 2 гадзіны ў тыдзень лекцыям аб гістарычных і ідэовых асновах аўстрыяцкае дзяржавы,а так-жа аб сьветапаглядным і дзяржаўным выхаваньні. Да далейшых студыяў будуць дапушчаны толькі тыя студэнты, якія здавальняюча зложаць экзамен з гэтых прадметаў.

## Англія трывожыцца.

22 траўня с. г. ў ангельскай верхняй палаце былі вялікія гутаркі па пытаньню аб абароне. Консэрватар лёрд Лейд выступіў з прамоваю, у якой паміж іншым заявіў:

— Толькі ў 3-х гадзінах дарогі ад Лёндану ёсьць вялікая, добра азброеная армія, якая можа прынясьці Англіі няшчасьце. Мерапрыемствы Нямеччыны выклікаюць трывогу. Яна мае цяпер 300—400 аэрадромаў, 200 з якіх могуць быць выкарыстаны для ваенных патрэбаў. А Вялікабрытанія мае толькі 90 аэрадромаў. Нямеччына мае ангары для аэраплянаў, у якіх можна зьмясьціць больш як 10.000 штук машын, ды нарэшце ў Нямеччыне ёсьць вайскова авіацыйная армія 135.000 чалавек лікам.

Міністар авіацыі Лендондэры, на гэта адказаў, што ў Англіі на дзейнай вайсковай службе ёсьць цяпер 2700 добра вывучаных лятуноў ды апрача таго 1200 лятуноў ёсьць у рэзэрве, а 400 лятуноў вывучваюцца. Каб вайсковы лятун атрымаў самую неабходную веду— патрэбна 12 месяцаў, а каб вышкаліць яго на зусім добрага лятуна — трэба яшчэ 18 месяцаў. Да 31 сакавіка 1937 году ў паветраным флёце ангельскае мэтраполіі будзе 1500 аэраплянаў „першае франтовае лініі“, а цяпер гэткіх машынаў ёсьць толькі 580. На той самы час маюць быць вывучанымі яшчэ 2500 лятуноў ды падрыхтованымі 22.500 чалавек успамагальнага пэрсоналу. У лютым 1936 году мае быць гатовым ангельскі бамбавоз цяжкага тыпу, які мае перавышаць гэткія-ж машыны іншых эўропэйскіх дзяржаваў.

У канцы ангельскі міністар сказаў, што паветраныя азбройваньні Англіі нельга разглядаць, як варожасьць яе да Нямеччыны.

# Праўны куток.

**Сяргею К.** *Браслаўшчына.* Вы пішаце, што хочаце запісаць сваю зямлю і ў сувязі з гэтым пытаецесь, якія абавязваюць у нас формы тэстаманту.

Згодна з абавязваючым у нас X томам „Зводу Законаў“ (расейскіх), тэстамант можа быць *нотар'яльны* або *прыватны*.

Як у адным, так і ў другім тэстаманце павінна быць дакладна азначана маемасьць і асоба, каторай гэта маемасьць запісваецца. Можна таксама маемасьць азначаць агульнай формай, прыкладам: „усю сваю нярухомую і рухомую маемасьць запісваю і перадаю на ўласнасьць...“.

Тэстамант нотар'яльны можа быць напісаны толькі ў прысутнасьці тэстатара (асоба, якая запісвае маемасьць іншай асобе) і прынамся 3-х сьведкаў.

Тэстамант прыватны павінен быць напісаны або ўласнаручна тэстатарам, або пад яго дыктоўку ў прысутнасьці сьведкаў, якія яго разам з тэстатарам падпісваюць. Уласнаручна напісаны тэстамант вымагае прысутнасьці 2 сьведкаў, а пісаны пад дыктоўку—прынамся 3-х сьведкаў. У апошнім прыпадку, апрача сьведкаў і тэстатара, тэстамант падпісвае і тая асоба, якая яго пісала. У прыпадку, калі тэстатар нягграманты, або з іншай прычыны ня можа падпісаць тэстаманту (прыкладам: хворы), то апрача 3-х сьведкаў і перапішчыка падпісаць тэстамант павінна на просьбу тэстатара яшчэ і пятая асоба; у тэстаманце павінна быць зацемка, чаму не падпісаўся сам тэстатар. Подпісы сьведкаў, тэстатара і перапішчыка павінны быць напісаны поўнасьцю: імя, прозьвішча і імя бацькі. Сьведкамі ў тэстамантных справах ня могуць быць: 1) асобы, на чыю карысьць запісваецца маемасьць, 2) радня тэстатара аж да 4-ай ступені, 3) апякуны і выканаўцы тэстаманту, вызначаныя ў ім, 4) асобы, ня маючыя 21 году, 5) асобы, якія ня могуць быць сьведкамі ў цывільных справах.

Тэстамант прыватны можа быць напісаны на паперы ўсякага фармату, вымагаецца толькі падвойны ліст. Тэстамант, напісаны на адным лісьце (непераломаным), будзе няважны. Кожны тэстамант, як прыватны, так і нотар'яльны можа быць зьменены або ўняважнены новым тэстамантам. Прыватны можна зьмяніць ці ўняважніць або прыватным, або нотар'яльным тэстамантам, нотар'яльны-ж—толькі новым нотар'яльным тэстамантам. У новым тэстаманцэ павінна быць зацемка аб уневажненьні першага тэстаманту; важным будзе тагды апошні. Тэстамант можна ўняважніць таксама асобным нотар'яльным актам.

# Вольная трыбуна.

## Споўнім наш грамадзкі абавязак!

Канчаецца школьны год. Дзесяткі маладых інтэлігентаў ізноў выйдуць з муроў адзінае ў Зах. Беларусі беларускае сярэдняе школы. Пабольшыцца лік нашае народнае інтэлігенцыі, якая пачне актыўную працу на карысьць нашага народу. Але ізноў паўстае заданьне перад нашай школай: трэба падгатаваць зьмену гэтым выходзячым штогод са школы вучням.

У цяжкіх варунках знаходзіцца нашае школьніцтва. Ня маючы натуральнага даплыву вучняў з пачатковых школ (бо беларускіх пачатковых школ у Зах. Беларусі вельмі мала), наша школа павінна кожны год з няпэўнасьцю глядзець на сваю будучыню.

Наш народ, які разумее патрэбу навукі, ня гледзячы на розныя перашкоды і намовы, пасылае сваіх дзяцей у сваю родную школу. Ня маючы на мясцох беларускіх гімназіяў, селянін наш змушаны часам пасылаць сваіх дзяцей за соткі кілямэтраў, змушаны рабіць непамерна вялікія выдаткі, каб даць дзецям магчымасьць вучыцца ў роднай мове.

Шмат перашкод пераможана... Шмат перашкод яшчэ перад намі. Але сялянства нашае ўжо зразумела, што толькі шляхам перамаганьня гэтых перашкод яно здабудзе сабе лепшую будучыню. Бо-ж сялянскі маладняк, які ідзе ў родную школу, гэта будучыня сваіх-жа бацькоў, будучыня нашага народу. Здабываючы асьвету, выхоўваючыся ў нацыянальным духу, моладзь наша падгатоўваецца ў школе да выпаўненьня тых вялікіх заданьняў, якія стаяць перад нашым народам. Сялянства нашае пераканалася, што толькі родная школа захавае яго дзяцей, дасьць яму абаронцаў яго правоў і інтэрэсаў. З пяці беларускіх гімназіяў, існаваўшых на абшарах Зах. Беларусі, засталася толькі адна Беларуская Гімназія ў Вільні. Тым болей мы мусім у сучасны мамэнт напружыць усе сілы, каб утрымаць гэтую гімназію і паставіць яе на магчыма найвышэйшы ровень.

Найгалаўнейшай перашкодай зьяўляецца для нас адсутнасьць пачатковых беларускіх школ. Дзецям нашым прыхоцзіцца прыватна падгатоўвацца, каб паступіць у беларускую гімназію. Кароткі час, які застаўся да новага школьнага году і ўступных эгзаменаў, павінна наша сялянства выкарыстаць якраз на гэтую падгатоўку. У першую чаргу яму будуць служыць самі-ж вучні Беларускае Гімназіі, якія паходзяць з розных куткоў Беларусі. Раз'яжджаючыся на лета, яны змогуць падгатаваць сваіх малодшых братоў у гімназію. За справу падгатоўкі ў гімназію павінна ўзяцца й наша інтэлігенцыя, якая знаходзіцца на правінцыі.

Ворагі рознае масьці імкнуцца да закрыцьця адзінае ўжо ў Зах. Беларусі сярэдняе школы. Масавае пасыланьне дзяцей у родную школу хай будзе найлепшым адказам на гэтыя імкненьні.

Моладзь наша — гэта будучыня наша. Самі-ж толькі мы створым сабе лепшае жыцьцё і здабудзем лепшую долю, а шлях да гэтага толькі праз асьвету.

Дык споўнім-жа свой грамадзкі абавязак. *І. Х.*

## Чаго мы хочам і куды ідзем?

Думку ўтварэньня пры „Родным Краю“ *Вольнай Трыбуны*, у якой магла-б беларуская моладзь, перадусім студэнская, вольна і незалежна ад нікога выказаць свае погляды, шчыра вітаю.

Дагэтуль усе спробы ўтварэньня друкаванага органу, які-б рэпрэзэнтаваў хоць прыблізна ўсю шырыню думкі беларускае моладзі, а прынамся беларускага студэнства, скончыліся няўдачай. Мне здаецца, што прычына гэтай няўдачы ляжыць у тым, што кожны з такіх органаў ставіў перад нашым студэнствам ня толькі мэту, да якой яно павінна імкнуцца, але і *накідваў яму свой вызначаны і абдуманы шлях* да гэтае мэты. Зразумела, што мэта можа быць толькі адна — гэта дабро і незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны, — але шляхоў да гэтае мэты шмат і кожны амаль з нас выбірае той, які яму найбольш адказвае. Можа было-б і добра, каб усё нашае грамадзянства ішло да свае мэты адным шляхам, але нажаль гэта немагчыма. Заданьнем „Вольнай Трыбуны“ павінна быць, а спадзяюся што і будзе, не змаганьне між тымі, што ідуць да аднае мэты рознымі шляхамі, але супольнае прадыскутаваньне вартасьці гэтых шляхоў, каб аблягчыць выбар такога шляху таму, хто,яшчэ толькі імгліста бачачы недзе далёка перад сабой супольную нашую мэту, ня ведае якой дарогай да яе ісьці.

Не ўваходзячы ў тое, якімі шляхамі хочуць весьці нашую моладзь „Студэнская Думка“ і выходзячая пры „Бел. Крыніцы“ — „Студэнская Трыбуна“, хачу затрымацца над напрамкам, які некалі рэпрэзэнтаваў орган зьліквідаванае Корпорацыі „Scorinia“ — „Новая Варта“, тым больш, што ў апрацаваньні занятага ёю становішча і я калісь прыймаў удзел.

Адным з сваіх постулятаў „Новая Варта“ паставіла тварэньне *беларускага позытывізму*. Думка запраўды новая і таму нічога дзіўнага, што частка беларускага грамадзянства, не зразумеўшы яе, накінулася на „Новую Варту“, востра закідаючы ёй звычайны опортунізм.

Расейскі філёзоф Розанаў некалі сказаў, што не ўяўляе сабе, каб позытывіст мог заплакаць. Слушна, але гэта не таму, што позытывіст пазбаўлены «людзкае душы», пазбаўлены людзкіх пачуцьцяў, але таму толькі, што ён *не павінен плакаць*, а павінен працаваць і тварыць, павінен ведаць, што плачам сабе памагаюць толькі дзеці і *істоты слабыя*. Позытывіст гартуе ў сабе *сілу да працы*, а плач вядзе да апатыі і бясьсільля.

Ці мала ўжо мелі мы ў нашай літэратуры плачу над „гаротным краем?“ Так, ён гаротны, бо слабы, а слабы таму, што плача!

Беларускі позытывіст не выракаецца агульна беларускіх ідэалаў, але і не ляціць да іх навосьлеп, ня гледзячы сабе пад ногі. Беларускі позытывіст ідзе да свае мэты сьмела, але цьвяроза, паволі, але пэўна стаўляючы кожны крок. Ідучы да далёкага і высокага ідэалу, позытывіст не пагарджае нават найменшай здабычай, якая хоць трохі яго да гэтага ідэалу прыбліжае. Хто хоча падняцца на сходы пераскаківаючы адразу праз некалькі ступеняў, найчасьцей падае і разбівае сабе лоб. Позытывістам лоб патрэбны і гэтым яны розьняцца ад ідэолёгаў, якія хочуць адразу, адным скокам падняцца на вышыню сваіх ідэалаў.

Ня сумліваюсь у вартасьці рамантычных уздымаў: яны былі патрэбны дзеля таго, каб замест позытывізму ня прыйшоў звычайны опортунізм, але стварыць самі па сабе яны нічога ня могуць, як нічога ня створыць дух без матэрыі. Духовыя асновы нашых ідэалаў створаны ўжо „нашаніўскай“ літэратурай і актам 25 сакавіка, схіляем галавы перад імі і творым рэальныя магчымасьці для іх выпаўненьня. *Г. Б.*

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22, Тел. 21-14.